№ 4
1 ВЕРАСНЯ
1935 г.

# Метадычны лісток

## у дапамогу школе

Выходзіць 2 разы ў месяц.

ЗМЕСТ:



ВЫДАННЕ ВІЦЕБСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА імя С. М. КІРАВА.

# Аб планаванні вучэбнай работы.

Л. С. Калецкі

Выданыя нядаўна Упраўленнем Пачатковай і Сярэдняй Школай Наркомасветы РСФСР „Указания о планировании работы учителя" даюць надзвычайна ясныя і чоткія ўстаноўкі настаўніку як у яго падрыхтоўчай рабоце к наступаючаму новаму вучэбнаму году, так і ў яго паўсядзённай рабоце—у падрыхтоўцы да кожнага асобнага ўрока."

Асноўныя палажэнні гэтага дакумента наступныя: упрасціць работу настаўніка па планаванню; каштоўнейшы час, які раней траціўся на састаўленне складаных форм гадавых, квартальных, тэматычных і іншых планаў, скарыстаць на сапраўдную падрыхтоўку к кожнай канкрэтнай лекцыі. Ад настаўніка патрабуюцца толькі два віды планаў: паўгадовы календарны план выканання праграмы па кожнаму прадмету і канкрэтны ўважліва прадуманы план правядзення кожнага асобнага ўрока.

Форма календарнага плана вельмі простая, паказваецца: 1) квартал, 2) раздзел праграмы, 3) колькасць гадзін, вызначаных на вывучэнне гэтага раздзела, 4) календарныя тэрміны работы і 5) адзнакі аб выкананні. Калі праграмны раздзел занадта вялікі, то ў плане паказваецца колькасць гадзін па кожнай тэме гэтага раздзелу.

Настаўнік у асноўным павінен прытрымлівацца таго размеркавання вучэбнага матэрыяла па гадзінах, каторае паказана ў праграме, але ў асобных выпадках, улічваючы падрыхтоўку вучня, ён можа ўнасіць некаторыя змены ў размеркананні гадзін на раздзелы. Гэтыя змены, аднак, не павінны парушаць агульнай колькасці часу, адвадзімага дадзенаму прадмету на квартал і ні ў якім разе не павінны прыводзіць к паніжэнню паўнаты і якасці засваення таго ці іншага раздзела праграмы; настаўнік можа толькі разумна манеўраваць вызначаным яму на даны квартал часам для праработкі вучэбнага матэрыяла.

Гэты календарны план з'яўляецца ва ўсіх адносінах адказным дакументам. У мінулым ад настаўніка патрабаваліся складаныя планы з вялікай колькасцю граф; не ўмеючы добрасумленна выконваць гэтага патрабавання, настаўнік адносіўся да планавання скептычна, перапісваў планы ў другіх і наогул не надаваў сур'ёзнага значэння ўсёй справе планавання. Зараз просты, выразны календарны план павінен сапраўды стаць дакументам, якім настаўнік можа і павінен кіравацца пры выкананні праграмы, якая з'яўляецца для яго сапраўдным дзяржаўным заданнем. Па гэтаму дакументу не толькі настаўнік сам сачыць за выкананнем свайго задання; па гэтаму плану яго будзе кантраляваць адміністрацыя школы, органы народнай асветы, прафсаюзы, грамадскасць.

Паўгадавы календарны план павінен быць зацверджан дырэктарам школы, або завучам. Зацверджанне планаў з'яўляецца справай надзвычайна сур'ёзнай і адказнай. Малейшы недагляд можа прывесці к невыправімым памылкам, к самым адмоўным рэзультатам. Зацверджанне плана будзе справай асабліва цяжкай для маладога дырэктара, або для дырэктара, пераведзенага ў другую школу. Усім дырэктарам наогул мы раім уважліва выслухаць усе меркаванні выкладчыка, прадставіўшага праект плана. У неабходных выпадках дырэктар павінен параіцца з больш вопытнымі людзьмі, з старэйшымі настаўнікамі, якія добра ведаюць работу школы ў мінулыя гады, з працаўнікамі РайАНА і ГорАНА, са спецыялістамі бліжэйшага педінстытута або педтэхнікума.

Другім этапам планавання праграмнага матэрыяла з'яўляецца складанне канкрэтных планаў паасобных урокаў. План урока з'яўляецца, як гэта сфармулявана ў „Указаниях", „асноўным аперазыўным дакументам у рабоце настаўніка". Планы ўрокаў таксама складаюцца па вельмі простай форме. Трэба указаць: 1) дату і нумар урока, 2) змест (тэму) і паслядоўны ход урока і 3) адзнакі аб выкананні. Паказваць паасобна так званую мэтавую устаноў-

ку не трэба. Апошняя будзе ясна з правільнай фармуліроўкі зместа ўрока.

У плане ўрока выкладчык пералічвае каротка, але з неабходнай метадычнай паслядоўнасцю асноўныя моманты разгортваючагася урока. Пачынаючым настаўнікам рэкамендуецца паказваць у плане прыкладную колькасць мінут на кожны этап урока. Па сваіх памерах план урока павінен заняць не больш паловы старонкі звычайнага сшытка. Для планаў заводзяцца спецыяльныя сшыткі. Гэтыя сшыткі настаўнік павінен захаваць, бо камплекты планаў, складзеных па данаму прадмету на цэлы год, будуць мець вялікую вартасць для настаўніка ў яго будучай рабоце: у наступныя гады яму прыдзецца ўнасіць у планы толькі некаторыя змены і папраўкі на падставе вопыта мінулых гадоў. З году на год планы паасобных урокаў будуць усё больш і больш удасканаленымі.

Настаўнік пачатковай школы складае планы ўрокаў па кожнаму прадмету паасобна ў парадку, адпавядаючаму раскладу заняткаў на даны дзень. Настаўнікам вясковай школы, якія займаюцца адначасова з некалькімі класамі, рэкамендуецца планаваць урокі для усіх класаў у адным сшытку, прычым планы ўрокаў для розных класаў павінны быць складзены паралельна, каб узгадніць час і віды работы паміж гэтымі класамі.

Планы паасобных урокаў не павінны зацверджацца адміністрацыяй школы. Планы толькі сістэматычна праглядаюцца заг. навучальнай часткі, або старэйшым настаўнікам. Адміністрацыя школы павінна сістэматычна сачыць за тым, як рэалізуюцца на практыцы планы ўрокаў.

Настаўнікі павінны заўседы мець пры сабе планы ўрокаў у час іх работы ў школе.

Пры вывучэнні найбольш цяжкіх раздзелаў праграмы, а таксама на першых парах работы пачынаючага настаўніка рэкамендуецца складанне больш падрабязных планаў урокаў—канспектаў.

План урока або канспект з'яўляецца афармленнем уважлівай падрыхтоўкі настаўніка к лекцыі, падрыхтоўкі, ад каторай залежыць якасць урока, поспех педагога. Ужо па плану можна будзе судзіць аб ступені прадуманасці ўрока, аб ступені педагагічнага майстэрства настаўніка. З прычыны гэтага ў паўсядзённай падрыхтоўцы к лекцыі, у складанні плана, настаўніку павінна быць аказана максімальная дапамога. Гэта ўдзячная работа ў першую чаргу кладзецца на старэйшага настаўніка—друга і дарадчыка маладога педагога. У дапамогу настаўніку павінны прыйсці кансультанты с/совета, раёна, горада. У педінстытутах і педтэхнікумах павінны быць арганізаваны чотка працуючыя кансультацыйныя бюро. У якасці кансультантаў РайАНА і ГорАНА павінны быць прыцягнуты найбольш кваліфікаваныя і вопытныя, карыстаючыяся аўтарытэтам педагогі па спецыяльнасцях. Кансультацыя, як вусная, так і пісьмовая павінна быць вычарпальнай і дадзена ў духу сапраўднай таварыскай дапамогі. Толькі пры ўмове такіх уважлівых і заботлівых адносін да настаўніка ў важнейшай і рашаючай частцы яго работы, ў падрыхтоўцы да лекцыі, мы зможам падрымаць настаўніка і сапраўды падняць якасць яго работы.

Ніжэй мы прыводзім узоры паўгадовага календарнага плана лекцыі і канспекта.

## ПРЫКЛАДНЫ КАЛЕНДАРНЫ ПЛАН ПА МАТЭМАТЫЦЫ ДЛЯ 6 КЛАСА на 1-е паўгоддзе 1935/36 г.

| Чверць | Раздзел праграмы | Кол. гадз. | Тэрмін выкан. | Адзнака аб выкананні |
|---|---|---|---|---|
| I Арыфметыка | 1. Адносіны . . . . . . . . . . . . . . . | 4 | 1—4 вер. | |
| | 2. Прапорцыі . . . . . . . . | 7 | 5—13 „ | |
| | 3. Залежнасць паміж двума велічынямі . . . | 3 | 14—16 „ | |
| | 4. Рашэнне задач прывядзеннем да адзінкі і прапорцыяй . . . . . . . | 8 | 17—26 „ | |
| | 5. Дзяленне лікаў прапарцыянальна двум або некальким лікам . . . . . . . . . . | 5 | 27 вер 2каст. | |
| | 6. Тры асноўныя задачы на процанты: | | | |
| | а) знаходжанне некалькіх процантаў даннага ліку; . . . . . . . . . . . . | 5 | 3—8 „ | |
| | б) знаходжанне ліку па данаму ліку яго процантаў; . . . . . . . . . . . | 5 | 9—14 „ | |
| | в) знаходжанне процантнай суадносіны двух лікаў . . . . . . . . . . . | 7 | 15—22 „ | |

| Чверць | Раздзел праграмы | Кол. гадз. | Тэрмін выкан. | Адзнака аб выкананні |
|---|---|---|---|---|
| I Арыфметыка | 7. Процантны транспартыр. . . . . . . . | 2 | 23—25 каст. | |
| | 8. Рашэнне задач з процантнымі разлікамі . | 6 | 26 к.—1 л. | |
| | 9. Паўтарэнне і кантрольная работа . . . . | 4 | 2—5 ліст. | |
| | РАЗАМ . . . . | 56 | | |
| II Алгебра | 1. Літарныя выражэнні . . . . . . . . . . | 8 | 9—20 ліст. | |
| | 2. Адносныя лікі: | | | |
| | а) расшырэнне паняцця аб ліку; лікавая вось, параўнавне адносных лікаў з нулём і паміж сабой . . . . . . | 4 | 21-26 „ | |
| | б) складанне і адыманне адносных лікаў | 8 | 27 л. 8 сн. | |
| | в) множанне і дзяленне адносных лікаў . | 6 | 9—16 „ | |
| | г) квадрат і куб адноснага ліку . . . . . | 4 | 19—22 „ | |
| | д) паўтарэнне і кантрольная работа . . . | 4 | 25—28 „ | |
| | РАЗАМ . . . . | 34 | | |
| II Геаметрыя | 1. Уводзіны . . . . . . . . . . . . . . | 3 | 11. 17 і 23 л. | |
| | 2. Прамая лінія . . . . . . . . . . . . . . | 6 | 29 ліст., 5, 11, 17, 23 і 29 снеж. | |
| | РАЗАМ . . . . . | 9 | | |

ЗАУВАГІ: Паўтарэнне матэрыяла павінна праводзіцца сістэматычна шляхам заданняў на дом па тэорыі і практыцы і шляхам праверкі гэтых заданняў на лекцыях, а таксама праверкі сшыткаў вучняў.

Звыш гэтага ў канцы кожнай чверці адводзіцца па некалькі дзён на падагульненне вучэбнага матэрыяла за чверць і на правядзенне кантрольнай работы.

Календарны план другой чверці складзен з прадпалажэння, што першы, другі, трэці і чацверты дні шэсцідзёнкі адводзяцца па раскладу на алгебру, а пяты— на геаметрыю.

**Прыкладны план урока па арыфметыцы у 6-м класе**

15 кастрычніка 1935 г. Урок № 28.*)

Процантнае аднашэнне 2-х лікаў— прасцейшыя задачы.

1. Праверка хатніх работ—5 мін.

2. Паняцце аб кратным аднашэнні двух лікаў (паўтарэнне)—5 м.

3. Магчымасць выражэння аднашэння двух лікаў у процантах (на нескладаных прыкладах) Запіс на дошцы роўнасцей выкладчыкам:

$^1/_2 = 0{,}50 = 50\%$; $^3/_4 = 0{,}75 = 75\%$; $^3/_{20} = 0{,}15 = 15\%$ і т. д —10 м.

4. Рашэнне задачы вусна на знаходжанне процантнага аднашэння 2 к 40; высвятленне двух асноўных пытанняў: а) якую частку 2 складае ад 40 і б) колькі процантаў прадстаўляе знойдзенае аднашэнне $^1/_{20}$. Запіс на дошцы:

$^2/_{40} = {}^1/_{20} = 0{,}05 = 5\%$—6 мін.

5. Практыкаванне ў рашэнні адпаведных задач вучнямі вусна з паследуючым запісам на дошцы—16 мін

6. Заданне хатняй работы—3 мін.

**Канспект той-жа лекцыі.**

1. Вучні ўспамінаюць, што кратнае аднашэнне двух лікаў дае адказ на пытанне „якую частку адзін лік складае ад другога", або „у колькі раз адзін лік больш за другі". Прыводзіцца рад прыкладаў.

2. Успамінаецца, што процантам данага ліка завецца $^1/_{100}$ частка гэтага ліка; такім чынам, $^5/_{100}$ гэтага ліка або $^1/_{20}$ яго роўны $5\%$; $^{40}/_{100}$ ліка, або $^2/_5$ яго роўны $40\%$ і т. д. Выкладчык падкрэслівае, што кожны дроб можа быць выражан у процантах; запісвае на дошцы: $^3/_4 = 0{,}75 = 75\%$; $^3/_{20} = 0{,}15 = 15\%$ і т. д.

3. Вучні развязваюць задачу: у класе 40 вучняў, сёння 2 не з'явіліся на занятке; колькі процантаў складае лік адсутнічаючых вучняў ад агульнай колькасці? Запіс на дошцы: $^2/_{40} = {}^1/_{20} = 0{,}05 = 5\%$. Рашаюцца 3 аналагічныя задачы з практыкі знаёмай фабрыкі, свайго калгаса, с/совета, раёна, горсовета (задачы, адпавядаючыя №№ 77 і 78 задачніка Березанскай—стар. 100). Рашэнне кожнай задачы афармляецца запісам на дошцы і ў сшытках.

4. Вучні фармуліруюць, што пры рашэнні задач на знаходжанне процантнага аднашэння двух лікаў трэба спачатку даведацца, якую частку адзін лік складае ад другога і потым знойдзенае аднашэнне ператварыць у дзесятковы дроб; колькасць сотых і пакажа колькасць процантаў.

5. Заданне на дом: задачы №№ 71, 73, 74. Выкладчык запісвае на дошцы

*) Прывадзімы ніжэй план урока з'яўляецца планам першай лекцыі аб процантным аднашэнні двух лікаў; у наступных лекцыях развязваюцца больш складаныя задачы.

нумары гэтых задач. Вучні знаходзяць задачы ў сваіх задачніках. Адзін з вучняў зачытвае тэкст кожнай задачы і каротка фармуліруе шлях рашэння найбольш труднай задачы.

**ПРЫКЛАДНЫ ПЛАН**

**урока па батаніцы у 5-ым класе на 2 гадзіны**

1) дата і нумар урока. 2) Змест і ход урока: пабудова насенняў; а) гутарка для сувязі з папярэднім матэрыялам—10 мін. б) паведамленне вучняў аб змесце урока і дача тлумачэнняў аб парадку прадстаячай работы—10 мін.; в) раздача насенняў і прылад (лупы па адной на кожную парту, прэпаравальныя голкі, скальпелі, або перачыныя ножыкі, насенне фасолі. пшаніцы сланечніку, аўсу, ячменю, кукурузы, гароху) —5 мін.; насенне павінна быць папярэдне размочана ў вадзе; г) разгляд вучнямі насення фасолі, расчляненне на часткі і зарысоўка—30 мін. д) разгляд, расчляненне і зарысоўка насення пшаніцы—20 мін.; е) такая-ж работа з насеннем астатніхраслін і падзел насення на дзве групы: аднадольныя і двудольныя—20 мін.; ж) вынікі лекцыі —5 мін., а) заданне на дом: прачытаць па падручніку стар. 14—15; у жывым кутку або дома пасадзіць насенне фасолі, або бабоў без семядолей, з адной семядоллю і з двума семядолямі, а потым назіраць за прарастаннем, запісваць назіранні і зарысоўваць прарасткі па меры іх змен.

ЗАЎВАГА: выкладчык павінен абавязкова сам раней прарабіць усе паказаныя работы і падрыхтаваць да лекцыі пералічаны раздатачны матэрыял і прылады ў дастатковай колькасці.

(План складзен прафесарам НІКАНАВЫМ).

## Планаванне выхаваўчай работы ў школе

**А. Г. Абрамаў.**

Праца па комуністычнаму выхаванню дзяцей у школе яшчэ слаба плануецца. Часта комуністычнае выхаванне чамусці абмяжоўваецца толькі антырэлігійным і інтэрнацыянальным выхаваннем. У план звычайна не ўключаюцца моманты фізічнага, вайсковага і мастацкага выхавання.

Часта зусім ігнаруецца выхаванне комуністычнай маралі ў той час, калі гэтаму пытанню В. І. Ленін надаваў велізарнае значэнне. Яшчэ на III-ім Усесаюзным З'ездзе РКСМ Ленін гаварыў: „Трэба, каб уся справа выхавання, адукацыі і вучэння сучаснай моладзі было выхаваннем у ёй комуністычнай маралі". (Ленін—„Задачы моладзі"). Гэтымі словамі Владзімір Ільіч як-бы вызначае асноўнае накіраванне работы совецкай школы.

Выхаванне комуністычных адносін к працы, грамадскай уласнасці, калектыву і чалавеку, выхаванне любві і адданасці соцыялістычнай радзіме, выхаванне рэволюцыйнай непрымірымасці к класаваму ворагу,—вось што павінна быць прадметам выхаваўчай работы школы.

Перад настаўнікам стаіць задача прывіць вучню такія правілы, паняцці і нормы яго паводзін, каторыя цалкам вызначаліся б інтарэсам пролетарыята, інтарэсамі соцыялістычнай радзімы.

Гэтая работа павінна праводзіцца паусядзённа на вучэбных занятках, увязваючы вучэбны матэрыял паасобных прадметаў з пытаннямі комуністычнай маралі, а таксама скарыстоўваючы гутаркі з вучнямі, школьныя вечары і іншыя клубныя работы, якія па плану праводзяцца ў школе.

Пры складанні плана выхаваўчай работы мы рэкамендуем наступныя раздзелы:

1. Выхаванне комуністычнай маралі: а) комуністычныя адносіны к працы; б) соцыялістычныя адносіны к грамадскай уласнасці; в) выхаванне пролетарскага калектывізма; г) выхаванне свядомай дысцыпліны; д) прывіццё любві к соцыялістычнай радзіме і рэволюцыйнай непрымірымасці к класаваму ворагу.

II. Выхаванне пролетарскага інтэрнацыяналізма.

III. Антырэлігійнае выхаванне.

IV. Вайскова-фізкультурнае выхаванне.

V. Мастацкае выхаванне.

Для ажыццяўлення ўсяго гэтага неабходна намеціць адпаведныя мерапрыемствы. Некаторыя з іх мы ніжэй і прапануем. Загадзей агаварваемся, што прапануючы іх, мы зусім не прэтэндуем на ўсю паўнату канкрэтнага рашэння пытання па выбару выхаваўчых мерапрыемстваў. Гэта толькі наметкі, каторыя па нашай думцы, у некаторай ступені памогуць настаўніцтву масавай

школы пры складанні планаў выхаваўчай работы. Мерапрыемствы прыводзім па раздзелах. Настаўнікі павінны карыстацца гэтым матэрыялам, як арыентыровачным.

**Комуністычныя адносіны к працы.**

1. Правесці гутарку аб ролі працы ў грамадскім жыцці. Праца ў буржуазнай грамадзе і ў Совецкай краіне. Выказванні Леніна і Сталіна аб працы.

Арганізаваць вечары на тэму: „Праца рабочага і селяніна ў царскай Расіі і праца рабочага і калгасніка зараз".

3. Чытанне і разбор апавяданняў аб ударнай рабоце.

4. Гутарка аб навуковай арганізацыі фізічнай і разумовай працы (для старэйшых класаў сярэдняй школы).

5. Гутарка аб социялістычным спаборніцтве.

6. Арганізацыя социялістычнага спаборніцтва ў школе.

**Социялістычныя адносіны к грамадскай уласнасці.**

1. Правесці гутарку з дзецьмі аб значэнні грамадскай уласнасці і аб яе ахове. Прывесці прыклады ўдзелу дзяцей у ахове грамадскай уласнасці (Гордзіенка, Ламінадзе і інш., мясцовыя рэбяты). Высветліць ідэю свяшчэннасці грамадскай уласнасці і падкрэсліць, што беражлівая ахова ўласнасці социялістычнай грамады з'яўляецца доўгам кожнага працоўнага Совецкага Союза. Расказаць аб метадах выхавання социялістычных адносін к грамадскай маёмасці (уся наша асветная работа, школа, друк, мастацтва, літаратура, Чырвоная армія і т д, а таксама трудавыя калоніі НКВД, як напрыклад, Болшэўская калонія); з другога боку падкрэсліць і мерапрыемствы прымусовага і карацельнага характара: совецкія законы аб ахове социялістычнай маёмасці і ў прыватнасці закон ад 7/VIII 1932 г.

3. Расказаць аб правілах карыстання грамадскім інвентаром і дапаможнікамі (парта, умывальнік, ручнік, кружка, дошка, мел, карты і інш.).

4. Узяць класам, школай абавязкі па ахове некаторых відаў грамадскай уласнасці (зялёныя насаджэнні, бібліатэкі, клубы і інш.).

5. Падабраць літаратуру для чытання аб будаўніцтве гігантаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі нашай краіны.

**Выхаванне пролетарскага калектывізма.**

1. Правесці гутарку на тэму: „Каго трэба лічыць таварышом?" або: Каго я лічу сваім таварышом?"

2. Весці барацьбу са скажоным разуменнем пачуцця таварыства („таварыствы" па падсказванню, па хуліганству, па курэнню і т. д.) на канкрэтных выпадках.

3. Прачытаць або расказаць аб выпадках сапраўдных таварыскіх адносін з жыцця і барацьбы партыі, Чырвонай арміі, комсамола, піонераў і т. д. Падабраць матэрыял, які апісвае дзейнасць рэволюцыянераў у падполлі.

4. Для таварыскай спайкі дзяцей арганізаваць экскурсію—прагулку, вечар, класнае чытанне, вечары і гульні на кватэрах і т. д.

5. Правесці з дзецьмі гутарку аб увазе к старэйшым і ў прыватнасці к старыкам аб вежлівых і культурных паводзінах, аб такту і абыходжанні з таварышамі і дарослымі. Падкрэсліць хлусню і цынізм „вежлівасці" буржуазіі, як напр. цалаванне ручак жанчын з аднаго боку і закрэпашчэнне іх—з другога.

6. Правесці гутарку з дзецьмі аб чулых адносінах к таварышам.

7. Правесці барацьбу з абразлівымі клічкамі і насмешкамі, прыніжаючымі годнасць чалавека.

8 Падабраць літаратуру для самастойнага чытання аб пачуцці калектывізма і таварыскіх адносінах к людзям.

**Прывіцце любві к социялістычнай радзіме.**

1. Правесці гутарку аб радзіме социялістычнай і „радзіме" буржуазнай.

2. Падабраць мастацкую літаратуру для самастойнага чытання (Паўстоўскі—„Карабугаз", „Колхіда", Гладкоў—"Энергія" і інш., а таксама артыкулы з газет і дзіцячых журналаў).

3. Арганізаваць калектыўнае разглядванне ілюстрацый аб нашай краіне („СССР на стройке", "МТС на стройке", альбом „Совецкая Беларусь" і інш.).

5. Прачытаць і абгаварыць з дзецьмі некалькі апавяданняў аб барацьбе большэвікоў за социялістычную радзіму (падполле, грамадзянская вайна і т. д.).

5. Вывучыць з дзецьмі „біяграфію тав. Сталіна і расказаць аб яго ролі у справе пабудовы социялістычнай радзімы, аб любві к яму ўсіх працоўных.

6. Расказаць дзецям аб выпадках гераізма і праяўлення любві к социялістычнай радзіме (Чэлюскінцы, палёты у стратасферу, прыжкі парашутыстаў і т. д.)

7. Расказаць аб тым, што росквіт нашай сацыялістычнай радзімы адбываецца ў умовах жорсткай класавай барацьбы: выпадкі-шкодніцтва; забойства кіраўнікоў (т. Кірава) і мясцовы матэрыял. Разучыць песню памяці Паўліка Марозава.

8. Правесці гутарку на тэму: „СССР —радзіма сусветнага пролетарыята". Гутарку правесці на матэрыяле класавай барацьбы за мяжой і на падставе выказванняў працоўных з-за мяжы.

9. Скарыстаць кіно-карціны для выхавання совецкага патрыятызма („Чапаеў", „Юнасць Максіма", „Сяляне", „Ёсць метро", і інш., кіно-журналы і т. д.

**Выхаванне свядомай дысцыпліны.**

1. Стварыць узорны парадак і чыстату ў класе і школе.

2. Навучыць дзяцей выціраць ногі, мыцца, вешаць вопратку і т. д.

3. Давесці да рэбят правілы ўнутранага распарадку ў школе.

4. Правесці гутарку на тэму: „Каго мы лічым дысцыплінаваным вучнем?".

5. Расказаць аб дысцыпліне ў партыі і Чырвонай арміі. Прывесці прыклады.

6. Абгаварыць меры выхавання свядомай дысцыпліны на сходзе ўсіх працоўнікоў школы (настаўнікаў, тэхнічных працаўнікоў).

7. На класных бацькоўскіх сходах абгаварыць пытанне аб рэжыме дзяцей дома і аб прынцыпах выхавання свядомай дысцыпліны.

8. Узяць пад асаблівае індывідуальнае назіранне цяжкіх дзяцей.

9. Прыцягнуць старых рабочых і калгаснікаў для індывідуальнай гутаркі з вучнямі-дэзарганізатарамі.

10. Сумесна з комсамольскай і піонерскай арганізацыямі стварыць пасты па папярэджанню недысцыплінаванасці (пры жакце, у весцы, кіно, на базары і т. д.).

11. Правесці вывучэнне дзіцячых інтарэсаў і іх запросаў. Асабліва вывучыць інтарэсы дэзарганізатараў.

**Антырэлігійнае выхаванне.**

1. Правесці гутарку на тэму: „Што такое рэлігія і чаму мы з ёю змагаемся?".

2. Падабраць літаратуру аб барацьбе рэлігіі з навукай (Галілей, Джордано Бруно і інш.).

3. Арганізаваць куток бязбожніка (лозунгі, плакаты, ілюстрацыі, дошка пытанняў і адказаў і інш.).

4. Правесці гутарку на тэму: „Як царква змагаецца з рэволюцыяй?".

5. Арганізаваць рад антырэлігійных вечароў.

Скарыстаць кіно-карціны („Іуда", „Крыж і маўзер" і інш.).

7. Падабраць антырэлігійную літаратуру для самастойнага чытання.

8. Для старэйшых класаў прачытаць даклад на тэму: „Навука і рэлігія".

**Выхаванне пролетарскага інтэрнацыяналізма.**

1. Красачна расказаць дзецям аб інтэрнацыянальных задачах пролетарыята ўсяго свету.

2. Устанавіць узаемную перапіску з адной з школ брацкіх рэспублік, а таксама практыкаваць абмен вопытам школы, дасылаючы адпаведны матэрыял:—ілюстрацыі, фатаграфіі і т. д.

3. Арганізаваць інтэрнацыянальны вечар, карнавал.

4. Праз ОЗЕТ устанавіць сувязь з адной з школ Яўрэйскай Аўтаномнай Вобласці.

5. Арганізаваць ячэйку прыхільнікаў МОПР'а. Расказаць аб значэнні дзейнасці МОПР'а.

6. Падабраць мастацкую літаратуру для чытання аб жыцці народаў СССР.

7. Вывесіць дошку, на якой сістэматычна (шляхам ілюстрацый) інфармаваць дзяцей аб жыцці і барацьбе рабочага класа з буржуазіяй у капіталістычных краінах і калоніях.

8. Падрыхтаваць святкаванне міжнародных рэволюцыйных дзён (8 сакавіка, 18 сакавіка 1 мая, МЮД, гадавіну Окцябрскай Рэволюцыі).

Шырока скарыстаць кіно-карціны.

**Вайскова-фізкультурнае выхаванне**

1. За 5-10 мінут да пачатку першай лекцыі праводзіць фіззарадку.

2. Абарудаваць пры школе пляцоўку для гульняў дзяцей на паветры ў час перапынкаў. Стварыць спартыўны куток.

3. Палепшыць гігіенічныя ўмовы работы дзяцей (павялічыць лік фортак, правесці дадатковыя мерапрыемствы па асвятленню, ацяпленню, забеспячэнню піцявой вадой і т. д.)

4. Прапусціць праз медычны агляд усіх вучняў.

5. Нараду з урокамі фізкультуры арганізаваць спартыўныя заняткі ў пазашкольны час.

6. Закупіць фізкультурны інвентар для розных відаў спорта.

7. Разучыць ваенна-фізкультурныя гульні і спевы.

8. Правесці гутарку аб значэнні РСЧА і яе гісторыі; падабраць літаратуру для самастойнага чытання аб Чыр-

вонай арміі і яе правадыроў; к 23 лютага падрыхтаваць вечар, прысвечаны Чырвонай арміі; наведаць казармы частак Чырвонай арміі, азнаёміцца з жыццём чырвонаармейцаў.

9. Расказаць аб Чырвонай арміі Савецкага Кітая (прачытаць урыўкі з кніжкі Агнес Смэплі „Апавяданні аб Кітайскай Чырвонай арміі").

10. Арганізаваць групу авіямадэлістаў.

11. Арганізаваць стралковы гурток (для вучняў стар. класаў).

12. Шырока скарыстаць кіно.

**V Мастацкае выхаванне**

1. Мастацкі аформіць памяшканне класа і школы (партрэты, карціны і т. д.)

2. Навучыць дзяцей прыгатаўляць лозунгі, плакаты, мантажы і т. д.

3. Азнаёміць з карцінамі класікаў (разгляд рэпрадукцый, серый адкрытак, а дзе ёсць мажлівасць, — наведаць музей).

4. Вывучыць нашы сучасныя песні.

5. Увесці заняткі па рытміцы.

6. Арганізаваць рэгулярнае слуханне музыкі (радыё, ігра на скрыпцы, раялі і народных інструментах.)

7. Арганізаваць гурткі: музычны, харавы, драматычны і літаратурны.

8. Правесці літаратурныя вечары, прысвечаныя асобным пісьменнікам, мастакам.

9. Укамплектаваць бібліятэку мастацкай літаратурай.

Пры правядзенні ўсіх пералічаных мерапрыемстваў неабходна унесці максімум энтузіязма, красачнасці.

Пры складанні плана выхаваўчай работы трэба ўнесці яшчэ у кожны раздзел асобныя мерапрыемствы па індывідуальнай рабоце з вучнямі (выклікі для гутаркі вучняў, бацькоў, абследванне сям'і і т. д.)

**Ад рэдакцыі:**

Рэдакцыя „Метадычнага лістка" зварачваецца да настаўнікаў з просьбай дасылаць свае меркаванні і запытанні па вышэйпрыведзенай праграме выхаваўчай работы. Рэдакцыя просіць дасылаць матэрыял аб вопыце правядзення паасобных мерапрыемстваў. На старонках „Метадычнага лістка" будзе асвятляцца вопыт комуністычнага выхавання совецкай дзетвары.

## Аб размяшчэнні вучняў у класе

**Т. І. Агафонаў**

Ад правільнага размяшчэння вучняў у класе у значнай ступені залежыць поспех работы як настаўніка, так і вучняў. Аднак, размяшчэнню рэбят у класе не заўсёды надаецца належная ўвага. Часта дзеці, прыходзячы ў школу, рассаджваюцца самі без адпаведнага кіраўніцтва класнага выхавацеля. Фізычна найбольш моцныя і растаропныя дзеці займаюць „самыя выгадныя" месцы: каля печкі, каля акна, дзе-небудзь на задняй або пярэдняй парце і т. д.; другія,—найбольш ціхія—садзяцца на застаўшыяся вольныя месцы.

Падобная стыхійнасць недапусціма таму, што дзіцячы склад у школах па свайму здароўю і дысцыплінаванасці далёка неаднолькавы. Побач з асноўнай масай вучняў, якія вызначаюцца моцным здароўем, добрымі паводзінамі і пасняхо васцю, ёсць дзеці з паслабленым слухам, або зрокам, дзеці з павышанай узбудзімасцю нэрвовай сістэмы, другагоднікі, „шалуны", дэзарганізатары і інш. Ясна, што калі прадаставіць размяшчэнне вучняў самацёку, то многія дзеці, якія адхіляюцца ў чым-небудзь ад нормы, папаўшы на месца, не адпавядаючае іх асаблівасцям, будуць не толькі пазбаўлены элементарных умоў для паспяховай вучобы, але і самі могуць стаць дэзарганізатарамі работы ўсяго класа.

Для забеспячэння педагагічна правільнага размяшчэння вучняў у класе перш за ўсё неабходна, каб класны кіраўнік задоўга да пачатку навучальнага года прыступіў к вывучэнню (хоць бы па матэрыялах мінулага года) свайго дзіцячага калектыва; затым, 28—31 жніўня, на падставе індывідуальных дадзеных аб кожным вучню, вызначыў бы завочна месца кожнаму з іх.

Пры размяшчэнні неабходна звярнуць асаблівую увагу на тых вучняў, у каторых ёсць адхіленні ад нормы ў сва іх паводзінах і развіцці.

Само сабой зразумела, што ва ўсёй гэтай рабоце класнаму кіраўніку неабходна канкрэтная дапамога з боку школьнага доктара і педолага. Ніжэй мы рэкамендуем некалькі агульных палажэнняў аб размяшчэнні вучняў у класе.

**І. Дзе пасадзіць вучняў, якія кепска чуюць?**

Для вучняў з паслабленым слухам трэба адвесці такія месцы ў класе, дзе яны маглі-б накіраваць больш здаровае

вуха ў бок выкладчыка, не змяняючы рэзка сваёй позы. Для такіх вучняў найбольш падыходзячым месцам з'яўляецца парта, якая стаіць перад сталом настаўніка. Размяшчэнне дзяцей з паслабленым слухам на пярэдне-бакавых партах мы можам рэкамендаваць толькі ў тым выпадку, калі іх ёсць у класе больш двух.

**II. Як размясціць дзяцей, у якіх паслаблены зрок?**

Пры размеркаванні дзяцей з слабым зрокам асаблівая ўвага павінна быць звярнута на малодшыя класы. Дзеці-малышы вельмі часта не ведаюць аб наліччы адхілення ў сваім зроку. К таму яшчэ яны не заўсёды ўмеюць правільна самі вызначаць адлегласць, адпавядаючую асаблівасцям іх зроку. У мэтах правільнага размяшчэння дзяцей з паслабленым зрокам мы рэкамендуем класнаму выхавацелю 29-31 жніўня вызваць у школу гэтых дзяцей і прапанаваць ім, паступова пераходзячы з парты на парту, выбраць для сябе месца, якое найбольш адпавядае асаблівасцям іх зроку. Мы прапануем гэтую работу правесці ў класах сумесна са школьным доктарам.

**III. Дзе пасадзіць другагоднікаў?**

Найбольш падыходзячым месцам, павышаючым актыўнасць і працаздольнасць другагодніка, трэба лічыць месца на другой або трэцяй парце і ні ў якім разе не па суседству з другімі другагоднікамі. Другагоднікі, пасаджаныя на апошнія парты, будуць пасіўна адсіджваць урокі, або знойдуць для сябе пабочныя заняткі, дэзарганізуючыя рабочы настрой класа. З гэтых-жа меркаванняў мы супярэчым і супроць таго, каб другагоднікі сядзелі разам.

**IV. Што трэба ўлічыць пры размяшчэнні дзяцей—шалуноў і дэзарганізатараў, дзе іх трэба пасадзіць у класе?**

Пры вырашэнні гэтага пытання неабходна прыняць пад увагу па-першае тое, што ўлюбленым месцам гэтых дзяцей з'яўляецца парта, якая стаіць каля печкі (зімою) ці каля акна (увосень і вясной), або дзе-небудзь у кутку і па-другое, што суседамі яны звычайна імкнуцца падабраць такіх-жа шалуноў, як самі, або найбольш паспяваючых, але фізічна слабых вучняў. Вучняў дэзарганізатараў трэба пасадзіць разам з вучнямі, добра паспяваючымі, аўтарытэтнымі ў таварыскім асяроддзі, з вучнямі, якія не падд лiся б уплыву дэзарганізатара, а наадварот, якія маглі-б паслужыць для яго прыкладам добрых паводзін.

**V Дзе пасадзіць дзяцей з рэзка павышанай узбудзімасцю нэрвовай сістэмы?**

Класнаму выхавацелю пры размяшчэнні гэтых дзяцей перш за ўсё неабходна прыняць пад увагу іх характарыялагічныя асаблівасці, менавіта: іх лёгкую ўспыльчывасць, раздражыцельнасць і нахільнасць к задзіранню другіх дзяцей. У іх вельмі часта і амаль з-за нічога ствараюцца канфлікты з дзіцячым калектывам. З прычыны гэтага зусім зразумела, што такіх вучняў трэба пасадзіць на пярэднія парты. Суседам трэба выбраць найбольш ураўнавешанага і спакойнага вучня.

**VI. Як размясціць хлопчыкаў і дзяўчат?**

У вырашэнні гэтага пытання даводзіцца назіраць дзве крайнасці: калі дзяўчат і хлопчыкаў садзяць раздзельна, нават часта клас падзяляюць на рады парт, асобна замацаваных за хлопчыкамі і асобна за дзяўчатамі, або —калі ўсіх вучняў размяшчаюць парамі (хлопчык з дзяўчынкай). Як першае, так і другое размяшчэнне з'яўляецца з пункту гледжання палавога выхавання дзяцей зусім неправільным. Пры размяшчэнні дзяцей па полу трэба ўнікаць гэтых двух крайнасцей. У аснову трэба палажыць прынцып добраахвотнасці выбара суседа, трэба лічыцца з узаемаадносінамі паасобных вучняў. Толькі ў выпадку налічча рэзка выражанай палавой узбудзімасці вучня трэба пасадзіць яго абавязкова з вучням таго-жа пола.

**VII. Як размясціць дзяцей, улічваючы іх рост?**

Для правільнага падбора парт, адпавядаючых росту кожнага вучня, дастаткова ведаць нармальнае аднашэнне росту вучня к асноўным размерам парты: 1) вышыня стала—вышыня задняга краю стала над падлогай, 2) вышыня сядзення і 3) дыферэнцыя (вышыня задняга краю стала над паверхняй сядзення). Для арыентыроўкі класнага выхавацеля пры размяшчэнні дзяцей па росту мы прыводзім табліцу размераў школьнай парты:

| Рост у см. | Вышыня сядзення у см. | Дыферэнцыя у см. | Вышыня стала у см. |
|---|---|---|---|
| 120—129 | 34 | 22 | 56 |
| 130—139 | 38 | 24 | 62 |
| 140—149 | 41 | 27 | 68 |
| 150—159 | 44 | 29 | 73 |
| 160—169 | 47 | 30 | 77 |

Вымярэнне вучняў і парт можна правесці сантыметравай лінейкай ці стойкай, падзелянай на сантыметры.

У некаторых класах можа не знайсціся падыходзячых парт для асабліва нізкарослых альбо асабліва высокіх дзяцей; тады неабходна зрабіць адпаведны абмен партамі з малодшымі ці з старэйшымі класамі.

Размяшчэнню вучняў па росту неабходна надаць вельмі сур'ёзнае значэнне. Інакш можа здарыцца, што частка дзяцей будзе баўтаць нагамі, недастаючы да падлогі, і пісаць з ненармальна ўздзёрнутымі кверху плячмі. У той жа час другая частка вучняў, атрымаўшы занадта нізкую і цесную парту, не будзе ведаць куды дзець ногі. Акрамя таго, занадта нізкія ці высокія парты вельмі стамляюць вучня і нярэдка выклікаюць раздражэнне яго палавой сферы.

У заключэнне лічым неабходным зрабіць наступныя тры заўвагі:

1) Класнаму кіраўніку, які размяшчае дзяцей у класе, неабходна ўнікаць залішняй ломкі прынцыпа добраахвотнасці. Педагог павінен лічыцца ў пэўнай ступені з сімпатыямі асобных вучняў. У гэтай справе неабходна ўсяму педагагічнаму калектыву праявіць як можна больш чуласці і ўвагі кожнаму дзіцяці паасобку.

2) Уся падрыхтоўчая работа (вывучэнне дзяцей, падбор і адпаведная расстаноўка парт) павінна быць выканана да 1-га верасня з тым, каб у першы жа дзень вучобы кожны вучань без шуму і блытаніны заняў бы адведзенае яму месца.

3) Неабходна з самага пачатку навучальнага года правільна размясціць дзяцей з тым, каб у далейшым не прышлося-б іх перамяшчаць. Частая змена месц вучняў на працягу навучальнага года вельмі адмоўна адбіваецца на агульным настроі і на працаздольнасці дзяцей.

## Васеннія феналагічныя назіранні.

**Праф. Л. Н. Ніканаў**

Набліжаецца восень. У свеце жывёл мы будзем назіраць: адлёт птушак, загатоўку запасаў на зіму, перазімоўванне ў становішчы сну ці анабіозу, у адкладванні яек; у свеце раслін можна будзе сустрэць аналагічныя з'явішчы, за выключэннем пералёту. Васеннія феналагічныя назіранні і заключаюцца ў тым, каб зафіксаваць пералічаныя з'явішчы ў прыродзе.

1. Нагляданне за адлётам птушак. Найбольш важна і лёгка заўважыць адлёт буйных птушак: жураўлёў, гусей, качак, а таксама адлёт буслаў; больш цяжка заўважыць адлёт лебядзяў, якія ляцяць звычайна вельмі рана на рассвітанні. Нагляданне за адлётам дробных птушак больш цяжкае; аб адлёце гэтых птушак можна судзіць па іх адсутнасці; напрыклад, калі мы штодзённа бачылі лятаючых каля дому ластовак, то дзень, у які мы іх больш не заўважым, можна лічыць днём іх адлёту.

2. Нагляданне за насякомымі. Заўважыць адкладзеныя яечкі пад карой, пад лісцём і інш.; гэта асабліва важна адзначыць на фруктовых дрэвах і ў гародах, а разам з гэтым неабходна прадпрыняць меры для знішчэння гэтых яечак: у садах, абмазваючы дрэвы вапнай, у гародах, спальваючы лісцё, цяціўё, качарыжкі, за выключэннем таго, што можа быць выкарыстана або непасрэдна на корм, або на сіласаванне. Знішчэнне яечак пазбавіць ураджай будучага года ад шкоднікаў.

3. Адзначыць з'яўленне лётнага павуціння.

4. Адшукаць гнёзды грызуноў, палёвак, палявых мышэй і інш., узважыць запасены імі матэрыял. Знішчаючы гэтыя запасы, мы тым самым знішчым і шкоднікаў; гэта можа быць дасягнута васенняй перакопкай гародаў і зяблевай успашкай палёў.

5. Адзначыць пачатак змены афарбоўкі лісця, поўнага пажаўцення альбо пачырванення лісця бярозы, асіны, клена, ліпы і др. дрэў, а затым—і іх лістапад.

